ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК
№6 (39) чэрвень 2014 год
CATHOLICNEWS.BY

# Біскуп блаславіў Віцебск

**По вуліцах Віцебска 22 чэрвеня прайшла Эўхарыстычная працэсія, якая сабрала вельмі шмат вернікаў, святароў і манахінь з розных куточкаў дыяцэзіі. Узначаліў яе біскуп Алег Буткевіч.**

■ **Марына Брылёнак**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*

На самым пачатку ўсе сабраліся на малітву ў катэдры Езуса Міласэрнага і ахінулі малітвай тыя краіны, дзе пануе неспакой і войны, асабліва Украіну.

Падчас гаміліі Пастыр зазначыў, што прысутнасць вернікаў у святыні – гэта сведчанне таго, што мы верым у прысутнасць Езуса ў Эўхарыстычных дарах, а таксама сведчанне нашай веры. Біскуп Алег сказаў, што сучасны свет, можа, не ўспрымае аргументаў, але бачыць нашае хрысціянскае жыццё, якое павінна быць добрым прыкладам для кожнага.

Пасля Эўхарыстыі вырушыла працэсія па вуліцах Віцебска. Вернікі спявалі рэлігійныя спевы, ідучы па горадзе разам з Хрыстом у Найсвяцейшым Сакраманце. Кожны католік верыць, што ў гэтым кавалачку Хлеба прысутнічае сам Бог.

Падчас працэсіі вернікі затрымліваліся каля чатырох алтароў, дзе святары спявалі ўрывак з Евангелля і маліліся, каб Бог захаваў краіну ад голаду і вайны. Біскуп Алег блаславіў Найсвяцейшым Сакрамантам прысутных вернікаў і ўсіх жыхароў горада Віцебска.

Сярод вернікаў можна было ўбачыць як людзей старэйшага ўзросту, так і моладзь, а таксама маленькіх дзетак разам з бацькамі. Усе яны сведчылі аб сваёй веры.

Уладзіслаў Чайкоўскі – хлопец, які прымаў удзел у працэсіі, сказаў, што для яго – гэта знак веры, якую ён не баіцца паказаць іншым, асабліва тым, хто не верыць. Гэта яго магчымасць як свецкага чалавека па прыкладзе Апосталаў сведчыць аб сваёй веры ў прысутнасць Хрыста ў маленькім кавалачку Хлеба. "Для мяне гэта вельмі важна. Бо менавіта дзякуючы гэтаму кавалачку Хлеба маё жыццё радыкальна змянілася два гады таму, пасля таго, як я паглядзеў на Яго".

Мінакі, якіх было вельмі шмат, са здзіўленнем назіралі за шэрагамі людзей у працэсіі. Многія таксама стаялі на балконах сваіх дамоў, каб пабачыць гэту нештодзённую з'яву.

Урачыстасць Цела і Крыві Хрыста пачалі святкаваць яшчэ ў XIII ст., і амаль адразу з'явілася традыцыя працэсіі. Свята нагадвае кожнаму верніку, што ў выглядзе Хлеба сярод нас ёсць прысутны Жывы і Сапраўдны Бог.

**Увага! Падпіска!**

**Дарагія сябры, запрашаем вас падпісацца на газету "Каталіцкі Веснік"!**
Падпіска на перыяд ад жніўня да снежня 2014 года (5 месяцаў) каштуе **19750 рублёў**.
Кошт падпіскі на 3 месяцы – **11850 руб.**, на 1 месяц – **3950 руб.**
**Нам вельмі важная Вашая падтрымка!**
Падпісваючыся на "Каталіцкі Веснік", Вы дапамагаеце нам абвяшчаць Добрую Вестку. Божае слова дзякуючы Вашай дапамозе можа ўвайсці ў кожны дом.
**Падпішыся на "Каталіцкі Веснік"!**
Наш індэкс 63783.

# Францішак і футбол

**Юбілейны XX Чэмпіянат свету па футболе распачаўся 12 чэрвеня ў Бразіліі. У свеце спорту гэтая падзея па сваёй папулярнасці параўнальная хіба што з Алімпійскімі гульнямі. І не таму, што чэмпіянат, як і алімпіяда, адбываецца раз на чатыры гады. Сакрэт папулярнасці, хутчэй, у спецыфіцы дадзенага віду спорту, у яго пашыранасці і даступнасці. Мільёны людзей на планеце з'яўляюцца яго шанавальнікамі і аматарамі. Адзін з такіх прыхільнікаў футбола – Папа Рымскі Францішак, які, будучы арцыбіскупам у Буэнас-Айрэсе, быў актыўным заўзятарам аргенцінскага клуба "Сан-Ларэнса", а ў 2008 г. нават адслужыў Імшу ў гонар стагоддзя ўлюбёнай каманды ды стаў афіцыйным заўзятарам, атрымаўшы адпаведнае пасведчанне.**

■ **а. Зміцер Чарнель**, *рэдэмптарыст*



**На здымку:** італьянскі футбаліст Джанлуіджы Буфон дорыць Папе Францішку мяч.

## Спорт – гэта школа міру

З нагоды адкрыцця чэміянату Пантыфік звярнуўся з відэапасланнем, у якім выказаў упэўненасць, што турнір можа стаць сапраўдным святам салідарнасці паміж народамі. Як паведамляе Беларуская служба Ватыканскага радыё, Папа Францішак лічыць, што футбольныя матчы, апроч спартыўнай карысці, могуць быць нагодай для дыялогу, паразумення і ўзаемнага чалавечага ўзбагачэння. Паводле Папы, павага да правілаў, настойлівасць, сяброўства, салідарнасць і іншыя спартыўныя каштоўнасці з'яўляюцца важнымі ва ўсіх аспектах чалавечага жыцця. Але, у першую чаргу, яны патрэбныя для пашырэння міру. "Спорт – гэта школа міру, ён нас вучыць будаваць мір", – сказаў Францішак.

У жыцці, як і ў спорце, трэба змагацца, трэніравацца, прыкладаць намаганні, каб дасягнуць важных вынікаў. На думку Папы, футбол са сваім прынцыпам "сумленнай гульні" павінен

> *Спорт – гэта школа міру, ён нас вучыць будаваць мір*

стаць школай "культуры сустрэчы". Каб перамагчы, трэба пераўзысці індывідуалізм, эгаізм, расізм, нецалерантнасць, адмовіцца ад выкарыстання іншага чалавека.

Сапраўды, тыя, хто ведае футбол, ведаюць таксама, што поспех цалкам залежыць ад каманднай гульні. Больш шанцаў на перамогу мае не каманда, у якой гуляюць зоркі ды дзівамайстры, а калектыў, які гуляе зладжана, згодна, што неаднаразова пацвярджала практыка. Менавіта ўзаемнае разуменне паміж гульцамі, дух сяброўства, пачуццё адказнасці за агульны вынік, дзяленне з іншымі магчымасцямі да дзеяння на полі пракладаюць шлях да перамогі. Павага ж да саперніка, сумленнае выкананне правілаў і шчырасць здымаюць напружанне і робяць гэтую перамогу заслужанай і прызнанай.

## Футбол вучыць духоўнасці

Папа Францішак прапануе нам звярнуць увагу на гэтыя аспекты футбола. Гледзячы на поле, можна ўбачыць у гульні таксама духоўны сэнс, бо падзеі на футбольным прамавугольніку з'яўляюцца вынікам дзеянняў канкрэтных людзей, гульцоў, якія паўтары гадзіны знаходзяцца ў сітуацыі змагання і барацьбы. Гэта цудоўная магчымасць

> *калі мы навучымся таму, чаму нас вучыць спорт, – станем пераможцамі ўсе*

прааналізаваць эфект як практычны, так і ўнутраны, псіхалагічны ад учынкаў і рашэнняў жывых людзей на гульнявым полі.

Якія адчуванні узнікаюць ад забітага сваёй камандай гола? А што адчуваем, калі магчымасць страчаная, бо хтосьці вырашыў абысціся без дапамогі іншых? У якіх выпадках нават пройгрыш не з'яўляецца такім крыўдным? Пры якой гульні не ўзнікае непрыязні да саперніка? Гэтыя і многія іншыя пытанні можна задаць сабе ці падчас, ці пасля гульні і зрабіць таксама высновы для свайго жыцця: як дзейнічаць, каб дасягнуць сваёй мэты, як ставіцца да іншых, каб не было напружання ў адносінах і г.д. "У канцы гэтага чэмпіянату толькі адна каманда зможа ўзняць кубак пераможцы, але, калі мы навучымся таму, чаму нас вучыць спорт, – станем пераможцамі ўсе", – пераканаы Пантыфік.

Зварот з нагоды адкрыцця Чэмпіянату свету па футболе ў Бразіліі – гэта ўжо не першая спробы цяперашняга Папы звярнуць увагу людзей на пошук духоўнай карысці ў футболе. Амаль год назад, 13 жніўня 2013 г., Пантыфік сустрэўся з італьянскімі і аргенцінскімі футбалістамі, якія гулялі таварыскі матч у Рыме у знак павагі да вядомага сваім запалам да футбола Папы Францішка. Вітаючы футбалістаў, Святы Айцец адзначыў, што ў спорце можна заўважыць шмат вельмі каштоўных рысаў: прыгажосць, шчодрасць, таварыскія адносіны. Францішак назваў футбалістаў "прыкладам" і "кропкай адліку" для многіх людзей, асабліва маладых. Папа лічыць, што сваімі паводзінамі і гульнёй яны могуць падтрымаць у моладзі самыя важныя жыццёвыя каштоўнасці.

Наперадзе нас чакае месяц футбольнага свята. Няхай гэты час не пройдзе марна, толькі як забава, але няхай прыклад стаўлення адно да аднаго і да гульні, якія мы бачым на футбольным полі, дапаможа нам зрабіць практычныя высновы. Кожны заўзятар пасля матчу можа сказаць, што ў ім было добра, што дрэнна, што было сумленна, што не. Жадаю, каб гэтыя высновы не абмяжоўваліся толькі ацэнкай гульні, а ставаліся нашым асабістым матыватарам таго, як дзейнічаць і як жыць.

**Бразілія**

# "Чырвоная картка" ад Касцёла

**Арганізатары Чэмпіянату свету па футболе атрымалі ад Касцёла ў Бразіліі "чырвоную картку".**



Апошнія некалькі месяцаў бразільцы выходзілі на вуліцы, каб паказаць сваю незадаволенасць арганізатарам футбольнага форуму, які праходзіць у іх краіне.

Спіс скаргаў даволі доўгі: ад недахопаў у інфраструктуры (у тым ліку адсутнасць дастатковай колькасці школ і бальнічных ложкаў) да выкарыстання дзяржаўных сродкаў на будаўніцтва дарагіх новых стадыёнаў.

Працягваючы тэму пратэстаў і спрэчак, Нацыянальная Канферэнцыя бразільскіх біскупаў выдала "чырвоную картку" для суровага пакарання арганізатараў Кубка свету.

"Чырвоная картка" – гэта ўлётка, якую распаўсюджваюць у Інтэрнэце і ў Касцёле. У ёй ператлічана восем «промахаў» з боку ўрада і службовых асоб Міжнароднай федэрацыі футбола. Таксама ў ёй гаворыцца пра высяленне цэлых сем'яў і дэмантаж будынкаў дзеля атрымання месца для стадыёнаў, пра разбурэнне навакольнага асяроддзя.

Аднак ва ўлётцы таксама пералічваецца шэсць элементаў для «забіцця пераможнага гола» падчас Чэмпіянату свету: гарантыя жылля для ўсіх, аборона рабочых, асабліва вулічных гандляроў, барацьба з гандлем людзьмі, а таксама захаванне правоў удзельнікаў акцыі пратэсту.

Канферэнцыя біскупаў Бразіліі падтрымала бяздомных, каб яны не былі "выкінуты з грамадскіх месцаў падчас Чэмпіянату, а затым вернутыя назад на вуліцы, як рэчы". Былі таксама пацверджаны удзел біскупаў у міжнароднай кампаніі па барацьбе з сэкс-гандлем.

*Паводле romereports.com*

**Докшыцы**

# Канікулы з Богам прайшлі ў Докшыцах

**І зноў у касцёле Святой Тройцы ў Докшыцах адбыліся дзіцячыя рэкалекцыі. Больш за сто чалавек удзельнічала ў канікулах з Богам.**

Дзеці з Мінска, Наваполацка, Глыбокага, Бярозаўкі, Маладзечна, Гродна, Слоніма, а ў асноўным з Докшыц пад кіраўніцтвам а. Віталя Юркевіча і с. Маргарыты Аўгустын разважалі на тэму малітвы «Ойча наш».

Дапамагала ў правядзенні летніка моладзь з Докшыц, Маладзечна і Гродна. Маладыя аніматары старанна выконвалі свае абавязкі. Кожны дзень на канферэнцыях удзельнікі разам з імі паступова разбіралі гэтую малітву, усе просьбы, якія мы ўзносім падчас яе да нашага Айца Нябеснага. Таму кульмінацыяй дзіцячага аазісу была адарацыя, на якой дзеці прыносілі свае падарункі Богу, дзякуючы Яму за усё тое, што Ён учыніў дзеля нас.

Канешне ж, падчас канікул з Богам дзеці адпачывалі не толькі душой, але і целам. Розныя гульні, конкурсы, танцы – усё праводзілася дзеля таго, каб яны зблізіліся адно з адным, не адчувалі сябе адкінутымі.

Вельмі ўразіла дзяцей паездка ў Маладзечна. Усе былі задаволеныя тым, як для іх арганізавалі гэты дзень: і малодшыя, і старэйшыя. Увогуле хочацца адзначыць, што галоўнай мэтай гэтых рэкалекцый было растлумачыць тую малітву, якую дзеці ведаюць змалку, але, магчыма, не зусім разумеюць. Таму гэты летнік не толькі дапамог дзецям знайсці новых знаёмых, але і вырасці ў духоўным сэнсе.

*Вераніка Далжук*

# Рэлiквii св. Яна Паўла II ужо i ва Узбекiстане

Рэліквіі св. Яна Паўла II перадаў пяці парафіям ва Узбекістане былы асабісты сакратар Папы, у цяперашні час мітрапаліт львоўскі арцыбіскуп Мечыслаў Макшыцкі.

Запрасіў яго ў Ташкент апастальскі адміністратар гэтай краіны біскуп Ежы Мацулевіч. 7-8 чэрвеня там праходзіла штогадовая сустрэча католікаў.

*«Я вельмі рады, што ў гэтым годзе магу паехаць ва Узбекістан, каб наведаць тамтэйшых католікаў, якія штогод збіраюцца, каб умацаваць у веры, пераважыць дух супольнасці», - сказаў арцыбіскуп КАІ перад паездкай. Ён адзначыў, што ў гэтым годзе сустрэча павінна мець характар падзякі за кананізацыю Яна Паўла II. „Мяне папрасілі, каб я, як сведка апошніх гадоў жыцця Папы, наблізіў да іх яго асобу і святасць.»*

Пры гэтым ён нагадаў, што менавіта Папа Вайтыла 1 красавіка 2005г. падняў місію «sui iuris», якая дзейнічала там з 1997г., у ранг апастальскай, мянуючы аднрачасова польскага францысканца а. Ежы Мацулевіча яе настаяцелем і біскупам. Гэта была адна з трох апошніх намінацый, якію падпісаў памерлы на наступны дзень Папа. Бенедыкт XVI абвясціў заступнікам гэтай касцёльнай адзінкі Яна Паўла II.

Камаі

# Арганная музыка душы яднае ...

**У нядзелю, 1 чэрвеня, у Камайскім касцёле адбылася значная падзея: ушаноўвалася 50-я гадавіна са дня смерці знакамітага арганіста, педагога, арганізатара фэстаў арганнай музыкі Браніслава Руткоўскага.**

Роўна 50 гадоў назад перастала біцца сэрца гэтага цудоўнага музыканта, ураджэнца вёскі Камаі, што на Пастаўшчыне, які асвойваў ігру на аргане ў Камайскім касцёле і ўсё сваё жыццё прысвяціў музыцы.

З гэтай нагоды тут сабралася шмат гасцей з розных рэгіёнаў нашай краіны і з Польшчы. Святую імшу ў інтэнцыі Браніслава Руткоўскага і яго родных узначаліў малады ардынарый Віцебскай дыяцэзіі ксёндз-біскуп Алег Буткевіч. Яго Эксцэленцыя ў сваім казанні падкрэсліў, што арганіст – гэта чалавек, які спевамі славіць Бога, а той, хто спявае малітвы, – моліцца двойчы.

Пасля імшы адбыўся канцэрт арганнай музыкі. Прафесар Кракаўскай музычнай школы Марэк Стэфаньскі выконваў творы, якія іграў у свой час Браніслаў Руткоўскі. Імпрэзу вяла музыказнаўца, кандыдат мастацтвазнаўства Вольга Савіцкая.

Сімвалічна і тое, што ганаравалі таленавітага земляка 1 чэрвеня, якраз у Міжнародны дзень абароны дзяцей. У жыцці Браніслава Руткоўскага здарылася трагедыя: у час Першай сусветнай вайны ад аскепка пры бамбёжцы загінула яго адзіная дачушка Ева. Можа, часткова і па гэтай прычыне ён заўсёды трапятліва ставіўся да дзяцей.

Жывучы пастаянна ў Польшчы, Браніслаў Руткоўскі ніколі не забываў пра Беларусь, пра родныя Камаі. Да калядных святаў ён штогод прысылаў грошы (немалыя, як сцвярджалі сучаснікі) на падарункі дзецям парафіі.

Рыхтуючы свята, пробашч Камайскай парафіі кс. Яцэк Хутман правёў вялікую работу. На доме, які пабудаваны на месцы, дзе калісьці стаяла сядзіба арганіста, і на магілках, дзе пахаваныя бацька, маці і родная сястра Браніслава Руткоўскага, устаноўлены памятныя дошкі.

Свята, прысвечанае земляку-арганісту, не пакінула нікога абыякавым і, думаю, запомніцца надоўга. Гэтая ўрачыстасць – своеасаблівая ўзнагарода знакамітаму земляку за яго талент, за чалавекалюбства, за любоў да сваёй Радзімы і за ўсе цяжкасці, якія яму давялося пераадолець і перажыць.

*Іаланта Валуевіч,*
*Астравецкі раён*



# Першы святар з Віцебска

**Біскуп Алег Буткевіч 31 мая ўдзяліў у Віцебскай катэдры сакрамант святарскіх пасвячэнняў дыякану Аляксею Ляшко.**

**кс. Віктар Місевіч**, *тэкст;*
**Уладзіслаў Журко**, *фота*

Дыякан Аляксей паходзіць з Віцебска. Ён нарадзіўся ў 1980 годзе, скончыў сярэднюю школу і паступіў на юрыдычны факультэт Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П.М. Машэрава. Паспяхова скончыў навучанне ў ВНУ і пасля перыяду працы ў 2003 быў залічаны на першы курс Вышэйшай Духоўнай Семінарыі ў горадзе П'ячэнца ў Італіі.

Цяпер ксёндз Аляксей рыхтуецца да абароны магістарскай дысертацыі. Сваю працу ў якасці святара будзе выконваць адпаведна з распараджэннямі біскупа Віцебскага Алега Буткевіча, якому падчас пасвячэнняў прысягнуў на паслухмянасць.

Святарскія пасвячэнні кс. Аляксея Ляшко ўнікальныя з той нагоды, што ён першы каталіцкі святар за многія дзесяцігоддзі, які паходзіць з самога Віцебска. Усе іншыя маладыя святары Віцебшчыны нарадзіліся ў іншых раёнах вобласці і краіны.

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Ганна Танана** (в. Коўзаны, Пастаўскі р-н), **Марыя Матус** (Валожын), **Соф'я Машара** (Мёры), **Кандрат Леановіч** (Віцебск), **Яніна Пакашэван** (Паставы), **Эвеліна Клімантовіч** (в. Бярозаўка, Лідскі р-н), **Аляксандра Гушча** (в. Ачковічы, Пастаўскі р-н), **Данута Пачкоўская** (в. Савуткі, Шаркаўшчынскі р-н), **Леанід Грыбач** (Гомель), **Яніна Дулінец** (в. Савуткі, Шаркаўшчынскі р-н), **Вольга Парневіч** (в. Крулеўшчына, Докшыцкі р-н), **Ганна Жылевіч** (в. Цэнтральная, Іўеўскі р-н), **Аліцыя** (Паставы).

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

*Рэдакцыя*
*"Каталіцкага Весніка"*

Лужкі

# Падзяка святару

**На календары – люты, папяльцовая серада – першы дзень Вялікага посту. У касцёле сабраліся вернікі, якія чакалі прыезду новага ксяндза, і было іх не так ужо і багата...**

Прайшлі чатыры гады. Сёння Лужкаўская парафія квітнее, а мы спяшаемся выказаць шчырыя словы падзякі нашаму пробашчу кс. Міхаілу Татарэнку. Напэўна, гэта не выпадковасць, што ў касцёле святога Арханёла Міхаіла працуе ксёндз Міхаіл. Працуе плённа і аддана, як і належыць святару. Вернікі пачалі часцей наведваць сваю святыню, сталі больш імкнуцца да стварэння прыгажосці ў касцёле і вакол яго.

Вось ужо чатыры гады наш пробашч вучыць нас дабрыні і справядлівасці, усяляе ў нашыя сэрцы і веру, і надзею. Для кожнага ён знойдзе патрэбныя словы суцяшэння. З'явілася супольнасць і ўмацавалася еднасць у касцёле, вернікі сталі адной вялікай сям'ёй. Многае зроблена за гэты час, але яшчэ больш патрэбна зрабіць. Мы вельмі ўдзячныя Богу, што ў нас працуе такі ксёндз, і нізка кланяемся яму за тое, што ён з намі.

У гэтым годзе нашаму касцёлу Арханёла Міхаіла спаўняецца 270 гадоў. Адзначае свой юбілей і 10 гадоў святарства кс. Міхаіл. Няхай і далей добры Бог акрыляе і натхняе яго на добрыя ўчынкі, а Маці Божая ахінае сваім плашчом міласэрнасці.

*Святою сілай малітвы,*
*Вялікаю моцай веры*
*Мы просім, каб Бог Вам сілы*
*Шчодра ў жыцці адмерыў.*

*Вам лёсам наканавана*
*Несці ў свет святое слова.*
*Няхай на шляху складаным*
*Любоў беражэ Хрыстова!*

*Здароўем заўжды квітнейце,*
*Штодзень толькі радасць майце.*
*У грэшным бяскрайнім свеце*
*Больш добрых людзей спаткайце!*

***Лія Шыпіла,***
*ад імя вернікаў Лужкаўскай парафіі Арханёла Міхаіла*

Лынтупы

# Шлях да Езуса

**Восьмага чэрвеня, у дзень святкавання Спаслання Духа Святога, у Лынтупскай парафіі адбыўся чарговы, восьмы Крыжовы шлях.**

А 16-й гадзіне парафіяне на чале з пробашчам кс. Паўлам рушылі ад касцёла па вызначаным шляху. Направдзе, змяняючыся на кожнай стацыі, вернікі неслі крыж – успамін аб крыжовай смерці Езуса, Які ахвяраваў Сябе дзеля нашага збаўлення. Ён напоўніў сэнсам нашае жыццё, і нават нашыя пакуты не прыгнятаюць нас, як раней, а толькі дапамагаюць падрыхтавацца да апошняй хвіліны жыцця і да сустрэчы з Богам твар у твар.

Пад музычнае суправаджэнне вядоўца агучвае змест кожнай стацыі, вернікі з малітвай кленчаць і ідуць да сімвалічнага месца ўкрыжавання. У вобразе Езуса – малады ксёндз Антон Лагунёнак з Дзеркаўшчынскай парафіі, ураджэнец Лынтупаў. Ксёндз-пробашч Павел, як пастыр авечак, вядзе сваіх парафіян па расквітнелым полі за Езусам, Які, падаючы і праліваючы крывавы пот, нясе свой крыж на Галгофу. Гучыць трывожная музыка, што нагадвае рух цягніка, каторы імчыць на шалёнай хуткасці і, здаецца, зараз знішчыць пад коламі ўсё жывое. А гэта жывое – акрываўлены Езус, Які ідзе на смерць, каб выбавіць наш грэшны свет.

Уся містэрыя пранізліва і шчыра даносіць да нас падзеі амаль двухтысячагадовай даўніны. Езус памёр і ўваскрос, паводле Пісання. Да крыжа выносяць вялікі абраз "Уваскрасенне Хрыста". У неба лятуць галубы, сімвалізуючы Духа Святога.

Кс. Павел благаслаўляе прысутных. Узрушаныя, несучы ў сэрцах агеньчыкі надзеі і любові, людзі разыходзяцца.

Прыгожыя дэкарацыі ў касцёле і афармленне Крыжовага шляху – справа ўмелых і нястомных рук удзельнікаў "Новага вобразу парафіі". За гэта ім вялікі дзякуй.

Таксама вернікі дзякуюць ксяндзу-пробашчу Паўлу Кнурэку за яго клопаты пра парафію, за плённую працу на ніве адраджэння духоўнасці і заўсёды памятаюць ксяндза ў сваіх малітвах.

***Нэля Лось,***
*г. п. Лынтупы*

# "Веруючы" ці "вернік"?

**Як правільна казаць па-беларуску: "веруючы" ці "вернік"?**

**Юрась Бабіч**,
*кандыдат філалагічных навук*

Абодва названыя словы з рознай частотнасцю ўжываюцца ў сучаснай моўнай практыцы. Лексема "веруючы" – гэта пазычанне з рускай мовы, дзе адпаведна назоўнік – "верующий" – паходзіць ад дзеепрыметніка з характэрным для рускай мовы суфіксам -ющ (-ущ). Параўнаем, напрыклад, "везущий", "играющий", "идущий" і г.д. Для беларускай жа мовы падобныя дзеепрыметныя формы неўласцівыя. Таму ў нас не выкарыстоўваюць словы кшталту "вязучы", "іграючы", ідучы" як дзеепрыметнікі.

Назоўнік "вернік" вядомы ў беларускай мове з XVI стагоддзя. Але ў сучаснай практыцы гэтае слова трывала замацавалася напрыканцы 80-ых гадоў XX стагоддзя, калі ва ўмовах нацыянальна-культурнага адраджэння многія адметныя лексемы сталі ўсё часцей выкарыстоўвацца і ў вусным маўленні, і ў друку. Падае назоўнікі "вернік" і "верніца" як адпаведнікі да рускіх "верующий" і "верующая" і "Русско-белорусский словарь" (1993, с. 156). "Тлумачальны слоўнік сучаснай беларускай літаратурнай мовы" (ТСБЛМ, 1996) таксама фіксуе лексему "вернік" са значэннем "чалавек, які верыць у існаванне Бога" (с. 110). У гэтым жа слоўнікавым артыкуле падаюцца назоўнік жаночага роду "верніца" і прыметнік "верніцкі". Ёсць паняцце "вернік" і ў "Беларускай энцыклапедыі" (1997, т. 4, с. 103) з тлумачэннем "чалавек, які верыць у Бога і належыць да пэўнай рэлігійнай канфесіі". І, што вельмі важна, акадэмічны "Слоўнік беларускай мовы" (2012) таксама змяшчае слова "вернік" (с. 139).

Назоўнік "вернік" часта ўжываецца і ў электронных, і ў друкаваных СМІ. Прывядзём, напрыклад, наступны мікракантэкст з газеты "Новы час" (23 мая 2014 г., с.6), дзе слова "вернік" выступае канцэптуальна важным паняццем: "Такі працэнт вернікаў, якія галасуюць за смяротнае пакаранне… Вернікі бываюць розныя. Ёсць вернікі, якія добра ведаюць багаслоўе, а ёсць фармальныя вернікі".

Падобны словаўтваральны тып, калі асабовыя назоўнікі ўтвараюцца ад дзеяслоўнай асновы з дапамогай суфікса –нік, з'яўляецца прадуктыўным у сучаснай беларускай мове. Параўнаем: "настаў-нік", "будаў-нік", "натхняльнік", "чараў-нік" і г.д. Таму неабходна і ў вусным, і ў пісьмовым маўленні выкарыстоўваць адметныя беларускія словы "вернік", "верніца", а не пазычанні з рускай мовы.

**Ніхто з нас не ўяўляе свайго жыцця без медыкаў. Прадстаўнікі гэтай высакароднай прафесіі вяртаюць людзям здароўе, а некаторым ратуюць жыццё. У асноўнай сваёй масе гэта свецкія людзі. Але бываюць і выключэнні. У горадзе Асіповічы на станцыі хуткай дапамогі працуе сястра Дамініка з ордэна святой Ядвігі. Каб на свае вочы пабачыць, як працуецца манахіні на “хуткай”, я накіраваўся ў Мінскую вобласць.**

■ **кс. Віктар Місевіч**, *тэкст і фота*




# Падораная любоў, або Як працуецца манахіні на “Хуткай”?

Загадзя дамовіўшыся з сястрой, пад’язджаю да станцыі “хуткай” у Асіповічах і паркую машыну. Тэлефаную с. Дамініцы. Яна спешна адказвае: “Мы маем выклік, ужо ад’язджаем у раён. Едзеце з намі?” “Канешне”, – адказваю і ўскокваю ва “ўазік”, які забірае мяне проста з паркоўкі. У машыне знаёмімся. З пярэдняга сядзення на мяне паглядае ветлівы малады жаночы твар з прыязнай усмешкай. На першы погляд, нічога не нагадвае, што перада мною – манахіня. На ёй белае доўгае адзенне і медыцынская куртка з надпісам “Хуткая дапамога”. І толькі сіні вэлён на галаве падказвае, што гэтая дзяўчына належыць да каталіцкага жаночага ордэна.

## З візітам да хворых

“Едзем у вёску, дзе нас чакае анкалагічна хворы, – распавядае с. Дамініка. – Гэта планавая паездка. У пацыента чацвёртая стадыя захворвання, таму мы толькі абязбольваем…” “Чаму гэтага не можа зрабіць хтосьці з мясцовых медыкаў? – пытаюся. – Мабыць, так было б танней для дзяржавы?” “Не думаю, – тлумачыць сястра-фельчар. – Справа ў тым, што мы даём такім хворым спецыяльныя пластыры. Яны наркатычныя. І для іх захоўвання неабходна мець сейф і ахову. Такога сабе не можа дазволіць мясцовы ФАП. Таму раз на тры дні мы прыязджаем з горада, каб даць хвораму гэтае наркатычнае абязбольванне”.

Дарога да вёскі даволі добрая, асфальтаваная, але невялікі “ўазік” няшчадна трасе нават на маленькай няроўнасці. Азіраюся навокал і заўважаю, што транспартны сродак не абшарпаны знутры і выглядае зусім новым. “Такія яшчэ выпускаюць?” – выказваю сваё здзіўленне. У гутарку ўключаецца кіроўца Міхаіл: “Так, выпускаюць. Канешне, пацыента на такой машыне можа добра патрэсці, пакуль яго давязеш да лякарні, але затое гэты “ўазік” дасць фору любой “газелі”, калі трэба даехаць на далёкі хутар па бездарожжы”.

У хуткім часе спыняемся каля вясковай хаты. Разам з сястрой Дамінікай іду ў дом, несучы медыцынскі рыштунак. Заходзячы ў дом, вітаемся з прысутнымі. Сястра ідзе ў пакой старэнькага дзядулі. На сцяне заўважаю каталіцкі крыж. Мяне не пакідае пачуццё, што я ўжо бываў у падобных абставінах. Назіраю, як сястра-фельчар спрытна мяняе пацыенту пластыры і акуратна збірае пакункі ад іх (наркатычныя сродкі на строгім уліку ў медыкаў). Раптам разумею, адкуль у мяне такое знаёмае пачуццё! Я ж сам неаднойчы наведваў хворых, выслухоўваў іх просьбы і суцяшаў у нядолі, даючы святыя сакраманты. Толькі тады на мне было святарскае адзенне, а цяпер – камізэлька з надпісам “Хуткая дапамога”. Аналізуючы свае пачуцці, прыходжу да высновы, як шмат падобнага ў місіі святара і лекара! Якое адказнае ў іх заданне і як горача чакаюць іх людзі!

## Сустрэча з Хрыстом

На зваротным шляху сястра Дамініка расказвае, якім чынам стала манахіняй. “Я сустрэла Хрыста толькі ў 17 гадоў. Да гэтага часу жыла без Бога. Але ўва мне быў нейкі пошук. Я шукала Госпада, сама таго не ведаючы. Мая сяброўка хадзіла ў касцёл, і вось аднойчы і я пераступіла парог святыні. Як аказалася, назаўсёды. Ужо ў дарослым узросце я прыняла Святую Камунію і паспавядалася. Пачала хадзіць у касцёл рэгулярна. А пакліканне ў манаства нарадзілася само сабой. І тут таксама ў мяне быў добры прыклад маёй сяброўкі. Яна пайшла ў кляштар сясцёр-ядвіжанак, а сёння ўжо з’яўляецца манахіняй у закрытым ордэне. У жніўні я збіраюся скласці вечныя шлюбы. Гэта адказны крок, але я для сябе ўсё ўжо вырашыла”.

## Манахіня на свецкай працы

Наш “уазік” пад’язджае да станцыі “хуткай”. Кіроўца Міша ідзе ў пакой для адпачынку піць гарбату, а мы з Вікторыяй Міхайлаўнай (так звяртаюцца да сястры Дамінікі супрацоўнікі) працягваем нашу размову.

**– Як наогул вам удалося, будучы манахіняй, уладкавацца на свецкую працу?**

– Я паспела папрацаваць медыкам пасля сваёй вучобы. Пасля перыяду падрыхтоўкі да манаскага жыцця зноў пачала задумвацца аб медыцыне, але нават і не спадзявалася, што ўсё так пазітыўна для мяне вырашыцца. Спачатку з боку мясцовага кіраўніцтва было неразуменне. Мне давалі дазвол на працу толькі пры ўмове, што я буду прыходзіць апранутай пасвецку.

***– Але такая ўмова для манахіні непрымальная…***

– Дакладна. Таму, калі ў Асіповічы прыехала з Мінска камісія па працаўладкаванні, мы пайшлі з пробашчам айцом Натанаэлем і задалі пытанне, ці магу я працаваць фельчарам і прыходзіць на працу ў манаскім адзенні? Адказ камісіі быў станоўчы. І вось я ўжо чатыры гады працую. Спачатку калегі не маглі прызвычаіцца да майго адзення, але цяпер ніхто не звяртае на гэта ўвагі.

> *...на душы вельмі радасна, калі бачыш, што твае веды і лекі дапамагаюць хвораму*

**– А як ставяцца да вас пацыенты?**

– Разумееце, калі прыязджаеш да цяжкахворага чалавека, яму ўсё адно ад каго прыняць дапамогу. Ад болю, бывае, ён перад сабой нічога не бачыць і не чуе. Ужо потым, калі лекі пачынаюць дзейнічаць, некаторыя арыентуюцца, што перад імі не проста фельчар, а фельчар-манахіня. Але ніколі не было скаргаў ад хворых з нагоды майго адзення.

## Шчасце дапамагаць

Прайшло літаральна некалькі хвілін ад нашага вяртання, як дыспетчар паведамляе новы адрас. Нас чакае пацыент, які скардзіцца на боль у сэрцы і высокі ціск. Міша не паспявае дапіць гарбату, мы ўскокваем ва “ўазік” і спяшаемся па адрасе. Гэтым разам у Асіповічах. Дом знаходзім вельмі хутка. Заходзім і бачым сталую жанчыну ў атачэнні радні.

“Вікторыя Міхайлаўна!” – пазнае сястру Дамініку бабуля. Я стаўлю медыцынскую валізку на крэсла і назіраю, як уважліва размаўляе сястра з хворай. Яна старанна мерае ціск і ўпэўнена адчыняе чамаданчык з рыштункам. Хвіліна – і ў яе руках шпрыц з лячэбнай вадкасцю. Пасля ўколу сястра адказвае на пытанні бабулі і дае той кансультацыю, якія лекі лепш піць пры высокім ціску і пры болі ў сэрцы. Затым яшчэ раз мерае ціск, каб пераканацца, што лекі падзейнічалі… Зноў вяртаемся на станцыю.

“Рознае здараецца падчас дзяжурства, – кажа сястра Дамініка. – Бывае, што аварыя на дарозе ці сутаргі ў пацыента. Аднойчы ў гэтым “уазіку” роды давялося прымаць. Але на душы вельмі радасна, калі бачыш, што твае веды і лекі дапамагаюць хвораму. І, наадварот, вельмі сумна, калі разумееш, што ў некаторых момантах медыцына з яе сучаснымі дасягненнямі бездапаможная”.

**– У сваім служэнні вам удаецца спалучыць два пакліканні: фельчара і манахіні. Разумею, што манаства – гэта вашае жыццё, а наколькі для вас дарагая ваша праца на “хуткай”? – пытаюся.**

– Шчыра кажучы, я вельмі шчаслівая, што магу дапамагаць людзям у якасці медыка. І калі б па нейкай прычыне я перастала б працаваць фельчарам, гэта было б вельмі прыкра для мяне. Я б вельмі гэтага не хацела.

Працягнуць нашую размову на станцыі “хуткай” нам не ўдаецца, таму што паступае яшчэ адзін выклік да хворага з арытміяй. Спешна выказваю глыбокую ўдзячнасць сястры Дамініцы за магчымасць рэпартажу і развітваюся, жадаючы ёй Божай дапамогі ў такім адказным служэнні.

Па дарозе дамоў успамінаю з пачутага, што ў ордэне сясцёр-ядвіжанак шмат беларусак і ёсць новыя маладыя пакліканні. Зусім не здзіўляюся з гэтага. Калі так шмат любові ў сясцёр да бліжняга, інакш быць не можа. Любоў прыцягвае. У ёй хочацца жыць. Яе хочацца дарыць іншым.

# Свецкія акаліты: ці патрэбныя яны ў Беларусі?

**На Захадзе вельмі часта можна спаткаць свецкага чалавека, які, з дазволу мясцова біскупа і прайшоўшы спецыяльную патрыхтоўку, удзяляе Св. Камунію вернікам. У Беларусі такога пакуль што няма. Але цікава, што пра гэта думаюць нашы чытачы? Ці патрэбныя ў беларускіх дыяцэзіях свецкія акаліты*?**

*Марына Брылёнак*

**Таццяна Зібарава:**



– На маю думку, добра, што свецкія маюць магчымасць дапамагчы святару пасля адпаведнай падрыхтоўкі і ў надзвычайных сітуацыях могуць удзяляць святую Камунію. Дзякую Пану Богу за вялікі давер свецкім і іх удзел у Літургіі.

**Аляксандр Сінкевіч:**



– Я прытрымліваюся меркавання, што такая асоба павінна быць католікам-практыкам і мець усведамленне, што праз яе рукі Езус уваходзіць у сэрца чалавека. Але варта адзначыць, што гэта патрэбна тады, калі святар адзін у вялікай парафіі. Толькі ў такім выпадку я згодны на дазвол біскупа, каб свецкі ўдзяляў святую Камунію.

**Бр. Яўген Хаданёнак:**



– На мой погляд, такія асобы патрэбныя ў Касцёле. Чаму? А менавіта таму, што, з аднаго боку, чалавек, які хоча альбо якому прапануюўваецца такая паслуга, сам мае магчымасць бліжэй з'яднацца з Богам і, перажываючы радасць трымання Езуса ў кавалку гостыі*, можа моцна перамяняць сваё жыццё. А па-другое, мае магчымасць дзяліцца Жывым Богам з іншымі, асабліва з хворымі, самотнымі, з тымі, хто з розных чыннікаў не можа быць у Касцёле і прыняць Камунію. Перадусім такія людзі патрэбныя, як сведчаць факты, у парафіях, дзе ёсць шмат вернікаў і мясцовыя душпастары патрабуюць звычайна дапамогі.

**Вольга Масцяніца:**



– Як я стаўлюся да гэтага? Не ведаю нават як і адказаць... Сустракалася з тым, што свецкія раздаюць Камунію толькі за мяжой, у нас такога не бачыла. Калі існуе праблема вострага недахопу святароў, такія асобы, канешне ж, патрэбны! Але калі ў парафіі ёсць хоць адзін святар, то ўдзяляць святую Камунію, мне здаецца, павінен менавіта ён. Бо трымаць у сваіх руках Хрыста – гэта найвялікшы дар, адзін з тых дароў, якія маюць людзі, што прысвяцілі ўсё сваё жыццё Богу. Перш за ўсё святар вучыць нас любіць, паважаць Хрыста, жыць з Хрыстом, з'яўляецца адлюстраваннем Хрыста ў свеце. Таму лагічна, каб менавіта праз яго рукі Бог прыходзіў да нас у постаці святой Камуніі.

**Алеся Шакола:**



– Я думаю, калі Касцёл дае дазвол, то ў гэтым няма нічога дрэннага. Бываюць розныя сітуацыі, напрыклад, святар у ад'ездзе або яшчэ штосьці, тады можна звярнуцца да такіх асобаў. Я не маю нічога супраць такіх дзеянняў.

*Акаліт – той, хто мае права раздаваць Св. Камунію
*Гостыя – круглы кавалак хлеба, які падчас Св. Імшы становіцца Целам Хрыста

**Гомель**




## Першы ў Беларусі “супрацьабортны” тралейбус

**10 чэрвеня ў Гомелі на лінію выйшаў новы тралейбус, які аформлены незвычайнай сацыяльнай рэкламай. Слоганы заклікаюць захаваць жыццё ненароджаных дзяцей.**

Ідэя “супрацьабортнага” тралейбуса ўзнікла ў чальцоў грамадскага аб'яднання “Выратаванне немаўлятаў”, у якім знаходзяцца хрысціяне розных канфесій, лекары-гінеколагі і прадстаўнікі іншых прафесій.

Выраб налепак для тралейбуса праспансаравала вытворчае аб'яднанне “Беларуснафта”, якое пагадзілася падтрымаць праект і выдзеліла 9,5 мільёнаў рублёў на ўсе работы па афармленні тралейбуса. Выраб рэкламы і абклейванне транспартнага сродка выканала прадпрыемства “Навальніца”. У якасці сацыяльнай рэкламы праект прайшоў узгадненні ў Міністэрстве гандлю Беларусі, таму “Гарэлектратранспарт” выдзеліў тралейбус пад праект бясплатна.

Агітаваць за жыццё транспартны сродак будзе як мінімум на працягу года, а магчыма, і даўжэй – пакуль налепкі не страцяць свой эстэтычны выгляд.

Тралейбус будзе курсаваць па маршрутах №2 і №8. У будучыні яго, магчыма, зробяць тэматычным па аналогіі з “футбольным” і “гістарычным” тралейбусамі, размясціўшы ў салоне інфармацыю пра аборты і іх наступствы.

*katolik-gomel.by*

# Біскуп Алег Буткевіч наведаў Глыбокае

**У парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім дзень 15 чэрвеня быў асаблівым дзякуючы прыезду Пастыра Віцебскай дыяцэзіі – біскупа Алега Буткевіча, які ўдзяліў сакрамант канфірмацыі 120 вернікам рознага ўзросту.**

**Марына Брылёнак**, *тэкст;*
**Марына Сінкевіч**, *фота*



**На здымку:** біскуп Алег Буткевіч з глыбоцкай моладдзю выпускае галубоў міру.

На пачатку свята пробашч Мечыслаў Янчышын прывітаў біскупа, а таксама ўсіх гасцей, якія прыбылі на ўрачыстасць. Пастыр дыяцэзіі прызнаўся, што з вялікім хваляваннем прыбыў у Глыбоцкую парафію. Бо ён як малады ардынарый яшчэ шмат спазнае, а поўная святыня вернікаў вельмі яго ўзрушвае. Як сказаў Яго Эксцэленцыя, “на гэтай прыгожай зямлі інакш і быць не можа”.

На ўрачыстасці прысутнічалі старшыня Глыбоцкага райвыканкама Алег Морхат, старшыня Глыбоцкага раённага Савета дэпутатаў Галіна Унуковіч, а таксама прадстаўнікі мясцовых прадпрыемстваў. Усе супольна маліліся аб міры ва ўсёй краіне, а асабліва за родны горад Глыбокае і ўсіх яго жыхароў.

Гамілію прамовіў сам біскуп Алег. Ён заклікаў вернікаў угледацца ў еднасць Святой Тройцы, у Божую еднасць. Бо менавіта яе не хапае сучаснаму асяроддзю, сучаснай сям'і.

Калі надышоў доўгачаканы момант удзялення Канфірмацыі, кандыдаты да сакраманту выказалі сваю гатоўнасць, а таксама вызналі веру, сапраўднымі сведкамі якой павінны быць. Падыходзячы да кожнага па чарзе з усмешкай, біскуп удзяляў сакрамант.

На заканчэнне Эўхарыстыі традыцыйна прайшла працэсія з Найсвяцейшым Сакрамантам. Уражвала колькасць прысутных, гэта было выразна бачна, асабліва падчас працэсіі.

Урачыстасць скончылася прыгожым сімвалічным жэстам: біскуп Алег разам з хлопцам і дзяўчынай выпусцілі трох белых галубоў на знак міру.

# “Чаму я не магу прымаць Св. Камунію?”



*“Хвала Христу! Помогите понять. Когда пара молодых католиков «встречается» 10 лет, пару лет живет под одной крышей, с общим бюджетом, кредитом и котом Васькой, то оба со спокойной совестью могут ходить к Исповеди и принимать Причастие. Однако, вступив в брак с православным, живя без Венчания, но с ребенком, крещенным в Костеле, я ни к Исповеди, ни к Причастию не допускаюсь. В первом случае не считается, что я живу во грехе, ибо официально никто вроде как бы не знает, с кем я делю постель и кров, но как только появляется штамп в паспорте, а ребенок в браке, но без Венчания, я резко становлюсь беспробудной грешницей? А если нет штампа (соцгарантий и защиты или ты официально мать-одиночка), тогда можно приступать к этим Таинствам в полной мере...!!! Где смысл? Венчание – это важное Таинство для меня, и не хочется из-за «ошибок молодости» страдать всю жизнь. Но и Исповедь, и Причастие не менее важны... А без них я страдаю сейчас! Чтобы быть полноценным католиком, стоило стать матерью-одиночкой?”*

**На пытанне адказвае кс. Андрэй Кулік, натарыус Курыі Віцебскай дыяцэзіі:**

– Адказваючы на Вашае пытанне, звернемся да Кодэксу кананічнага права, у якім чытаем, што “кожны ахрышчаны, калі толькі права яму не забараняе, можа і павінен быць дапушчаны да Святой Камуніі”(кан. 912). Што гэта азначае на практыцы? У тым жа Кодэксе (кан. 915) чытаем: да святой Камуніі нельга дапусціць асобу, якая “ўпарта трывае ў яўным цяжкім граху”.

У пастаўленым пытанні можна вылучыць два аспекты. Першы – т.зв. канкубінат (ад лац. “con” – разам і “cubare” – ляжаць), больш вядомы як “грамадзянскае партнёрства”, г.зн. трывалая сувязь паміж мужчынам і жанчынай, непацверджаная заключэннем сужэнскага саюзу. Другі – “грамадзянскае сужэнства”, інакш кажучы, саюз, зарэгістраваны і пацверджаны адпаведнымі органамі свецкай улады. І ў першым, і ў другім выпадках такі саюз з’яўляецца непрымальным для Касцёла і расцэньваецца як чужалоства.

Калі мужчына і жанчына маюць дзяржаўную рэгістрацыю свайго сужэнскага саюзу, але жывуць без вянчання і не збіраюцца ўпарадкаваць такую сітуацыю, гэта азначае, што яны не маюць намеру выправіцца, таму святар не мае кампетэнцыі, каб адпусціць ім грахі. Падобна і ў выпадку пастаяннага канкубінату, г.зн. тады, калі двое людзей жывуць разам, як напісана вышэй, пад адным дахам і з агульным бюджэтам. Апісаная сітуацыя яўна ўказвае на тое, што яны на працягу пэўнага часу падтрымліваюць сваю сувязь, парушаючы шостую запаведзь. Умовай адпушчэння грахоў можа быць толькі разрыў такога знаёмства ці заключэнне сакрамантальнага сужэнскага саюзу.

Такім чынам, умовай прыняцця Святой Камуніі з’яўляецца не наяўнасць ці адсутнасць штампа ў пашпарце, але пацверджанае Касцёлам сакрамантальнае сужэнства.

# Мы падманулі святара...

*“Хвала Хрысту! Мне не дае спакою такая рэч: справа ў тым, што мы з мужам абвянчаліся ў Касцёле, будучы праваслаўнымі. Калі ў нас запыталіся, хто мы паводле веравызнання, то адказалі, што каталікі, бо вельмі хацелі быць абвянчаныя па каталіцкім абрадзе (курсы падрыхтоўкі да вянчання пры Касцёле прайшлі). Таксама перад вянчаннем мы не былі на споведзі ў святара (праходзілі курсы ў адным горадзе, а вянчаліся ў іншым), неяк не звярнулі ўвагу на гэта. Але калі перад самым вянчаннем ксёндз удакладніў, ці спавядаліся мы там, дзе праходзілі курсы, сказалі, што так, каб не зрываць вянчанне. У сям'і ў нас усё добра, ёсць дзіця, але гэтая хлусня, якая мела месца падчас такой важнай падзеі ў нашым жыцці, увесь час вярэдзіць маё сэрца, не дае спакойна жыць. Вельмі хачу пайсці на першую споведзь, але баюся, што, даведаўшыся пра гэтыя абставіны, нас альбо адлучаць, альбо прызнаюць вянчанне несапраўдным...”*

*Марыя*

**На пытанне адказвае кс. Віктар Місевіч, афіцыял Біскупскага Суда Віцебскай дыяцэзіі:**

– Паважаная Марыя, вельмі шкада, што сваё сумеснае сужэнскае жыццё з мужам Вы вырашылі пачаць з падману. Канешне, у Вас ёсць маральная адказнасць за такі ўчынак перад Богам. І варта свае правіны вызнаць перад Госпадам, Які ёсць міласэрны. Вельмі добра, што Вы вырашылі праясніць сваю жыццёвую сітуацыю і, кіруючыся голасам сумлення, паспрабаваць упарадкаваць сваё духоўнае жыццё.

Паважаная Марыя, з Вашага ліста вынікае, што на сённяшні дзень Вы з Вашым мужам з’яўляецеся праваслаўнымі.

У адпаведнасці з гэтым Вы падлягаеце кананічным нормам Праваслаўнай Царквы. Кананічнае права Каталіцкага Касцёла Вас не абавязвае. Як ацэніць Ваш сакрамантальны саюз Праваслаўная Царква – трэба пытацца ў кампетэнтных прадстаўнікоў гэтай Царквы.

Калі ж Вы жадаеце перайсці ў каталіцтва, то згодна з Кодэксам кананічнага права Каталіцкага Касцёла Вашае сужэнства, хоць і было заключана нягодна (Вы з Вашым мужам несяце маральную адказнасць за падман), але ўсё роўна з’яўляецца дзейсным і сапраўдным. Каб перайсці ў каталіцтва, Вам неабходна звярнуцца да свайго душпастыра і растлумачыць сітуацыю. Як толькі Вы станеце каталікамі, зможаце прымаць сакраманты ў Каталіцкім Касцёле. Што датычыцца адлучэння Вас ад Касцёла, то гэта немагчыма зрабіць па той простай прычыне, што Вы да яго цяпер не належыце. Факт прыняцця сакраманту сужэнства ў Каталіцкім Касцёле не робіць з чалавека каталіка.

Паважаная Марыя, жадаю Вам і Вашаму мужу адвагі і шчырасці перад Богам. Няхай Дух Святы дапаможа Вам быць сумленнымі і добрымі хрысціянамі.

# Намашчэнне: хто можа прыняць?



*“Пахвалёны Езус Хрыстус! Спачатку зрабіла, цяпер думаю. 11 лютага я прыняла ўдзел у намашчэнні хворых. Сёння прачытала, што нельга ўдзяляць сакрамант намашчэння хворых тым, хто ўпарта трывае ў яўным цяжкім граху. Я жыву з мужам, але мы невянчаныя. Таму я не магу ўдзельнічаць у споведзі. Ці мела я права прымаць удзел у сакраманце намашчэння?”*

*Людміла*

**На пытанне адказвае кс. Віктар Місевіч, афіцыял Біскупскага Суда Віцебскай дыяцэзіі:**

– Кодэкс Кананічнага права ў каноне 1007 сцвярджае: *“Нельга ўдзяляць намашчэнне хворых тым, хто ўпарта трывае ў яўным цяжкім граху”.* З працытаванага канону выразна бачна, што касцельны правадаўца забараняе даваць сакрамант намашчэння хворых тым, хто пастаянна знаходзіцца ў стане цяжкага граху.

З пастаўленага вышэй пытання вядома, што жонка з мужам жывуць без сакрамантальнага сужэнскага саюзу. Таму яны не могуць прымаць сакрамант Эўхарыстыі і прыступаць да споведзі. Згодна з патрабаваннямі кананічнага права, яны не могуць таксама прымаць сакрамант намашчэння хворых.

Каб пераадолець гэтую перашкоду, сужэнцам неабходна павянчацца.

## Как связаться с епископом?

*«Слава Иисусу Христу! Скажите, пожалуйста, как мне узнать адрес курии и епархии, где служит епископ Олег Буткевич?»*

*Даниил, 42 года (Казахстан, Караганда)*

**На вопрос отвечает кс. Андрей Кулик, нотариус Курии Витебской Епархии:**

– Уважаемый Даниил! Чтобы связаться с епископом Олегом Буткевичем, Вам нужно написать письмо по адресу:

Витебская Епархия Римско-Католической Церкви в Республике Беларусь
ул. Воинов-Интернационалистов, 28
210032, г. Витебск
Республика Беларусь

Также можно написать электронное письмо по адресу: vitebsk-curia@tut.by

или позвонить по телефону: +375212429272, факс: +375212230949

# Грех ли любить священника?

*“Скажите пожалуйста, грех ли любить священника?”*

**На пытанне адказвае дк. Аляксей Філіпенка, Беларуская Грэка-каталіцкая Царква, г. Мінск:**



– На жаль, мова пытання не дае магчымасці зразумець асаблівасці адносінаў да святара, якія называюцца любоўю. Таму па-беларуску адкажу на два пытанні: 1) ці грэх любіць святара? і 2) ці грэх кахаць святара?

Ісус Хрыстос кажа: *”Любі Пана Бога твайго ўсім сэрцам тваім, і ўсёй душой тваёй, і ўсім розумам тваім”. Гэта найбольшая і першая запаведзь. Другая ж – падобная да яе: “Любі бліжняга твайго, як самога сябе”* (Мц. 22:37-39).

Добра вядома, што выкананне запаведзі – гэта не грэх, а цнота. Таму любіць святара – гэта не толькі не грэх, але і цнота. У той жа час трэба ведаць, як любіць святара, і якія бываюць праявы гэтай любові. Можна любіць Радзіму, бацькоў, мужа ці жонку, дзяцей, Бога, бліжняга, але кожнага мы любім па-рознаму. Таксама і любоў да святара мае свае асаблівасці. Святарства – гэта рэдкі дар, у якім мужчына, паслухмяны касцельным уладам, ахвяруе сваё жыццё для дабра парафіяльнай супольнасці. Таму любіць святара, перадусім, азначае яго паважаць. Дапамога ў душпастырскім служэнні – як працай на дабро парафіі, так і матэрыяльна – сведчаць аб любові да святара, Касцёла і Бога. Безумоўна, праявай любові будзе малітва за святара.

Больш далікатным выглядае пытанне пра каханне да святара. Рамантычныя перажыванні, якія можа выклікаць малады, прыгожы, разумны, ветлівы, без шкодных звычак святар у маладой, дзяўчыны, што чакае хлопца сваёй мары, паходзяць з глыбіні чалавечай натуры. Прыгожы мужчына выклікае захапленне і хваляванне ў жанчыны, таксама як і прыгожая жанчына ў мужчыны. І ў гэтых натуральных пачуццях няма нічога грахоўнага. Да пэўнай мяжы. Справа ў тым, што натуральнае пачуццё закаханасці можа выклікаць не менш натуральнае сэксуальнае жаданне. А вось гэта ўжо грэх супраць дзявятай запаведзі: *“Не пажадай жонкі (мужа) бліжняга твайго. Акрамя гэтага, Хрыстос кажа: хто з пажадлівасцю глядзіць на жанчыну (мужчыну), той учыніў з ёй (ім) чужалоства ў сэрцы сваім”* (Мц 5,28). Таму з сэксуальных фантазій адносна святара трэба спавядацца.

Часам бывае, што дзяўчына не ўстане справіцца са сваімі жаданнямі, нават разумеючы, што яны грахоўныя і бессэнсоўныя. У такіх сітуацыях часам дапамагае духоўная размова з аб’ектам жаданняў. У гісторыі Касцёла вядомы выпадкі, у якіх закаханасць да святароў перарастала ў большую любоў да Бога, і яны станавіліся манахінямі. Агульная парада такая: трэба намагацца, каб закаханасць да святара трансфармавалася ў любоў да святара.

# Езус за 30 еўра?




**У сеціве з'явіліся лялькі з выявамі Езуса, Марыі і іншых хрысціянскіх святых. Яны прадаюцца ў інтэрнэт-крамах коштам каля 30 еўра за адзінку. Вытворца сцвярджае, што такія лялькі прынясуць незабыўныя ўражанні дзецям, якія змогуць гуляць з маленькім Езусам, не баючыся, што той сапсуецца.**

Сайт "Каталіцкага Весніка" правёў апытанне сярод чытачоў адносна таго, як яны ставяцца да гэтай з'явы. Прыводзім таксама меркаванне эксперта – доктара тэалогіі кс. Адама Дынака.

Вынікі галасавання на сайце catholicnews.by глядзіце на дыяграме.

**Каментарый**
**кс. Адама Дынака, доктара тэалогіі:**

– Апошнім часам з'явілася мода папулярызаваць рэлігійныя справы. Праяўляецца гэта па-рознаму. Сама папулярызацыя – гэта штосьці пазітыўнае, калі цяжкія для разумення рэчы звычайнаму чалавеку становяцца зразумелымі і даступнымі. Гэта адносіцца таксама і да рэлігійных спраў. Таму неабходна вельмі пазітыўна ацаніць розныя спосабы папулярызацыі Біблії ці навучання Касцёла. Але ўсё мае свае межы добрага густу і культуры. Асаблівым чынам гэта датычыцца тэмаў у сакральнай сферы. Бо ў адваротным выпадку сакральнасць знікае, траціць сваю сутнасць.

У сферы рэлігіі існуюць асобы, рэчы і праўды веры, якія маюць права на годнае трактаванне. Таму людская павярхоўнасць у такіх справах пагражае знявагай ці нават блюзнерствам. Калі штосьці такое робяць людзі з па-за рэлігійнага асяроддзя (напр., атэісты), то гэта сведчыць пра іх варожае стаўленне, нелюбоў, або ў лепшым выпадку – пра адсутнасць культуры.

Горш, калі такога кшталту дзейнасць праяўляецца ў людзей, што называюць сябе вернікамі. У такім выпадку яны паказваюць адсутнасць павагі да ісцін, якія яны вызнаюць у сваім жыцці і якія павінны быць для іх найважнейшымі. Іншымі словамі, парушаецца другая Божая запаведзь. У шырокім значэнні яна заклікае шанаваць не толькі Божае імя, але і ўсё, што з'яўляецца само па сабе святым.

Недапушчальна, калі хтосьці робіць з Божай Асобы звычайную дзіцячую лялльку для штодзённага карыстання. Нельга святых асобаў або справы раўняць з любой іншай цацкай для дзяцей. Падчас хросту дзіцяці бацькі прымаюць на сябе абавязак выхаваць яго па-хрысціянску. Вельмі сумнеўна, што паводзіны дзіцяці будуць больш хрысціянскімі ад таго, што яно будзе забаўляцца ў пясочніцы з лялькай-Езусам ці лялькай-Марыяй!

Такі падыход можа сведчыць пра тое, што бацькі не разумеюць ролі, якую на сябе публічна ўзялі. У рэлігійным выхаванні яны спрабуюць пайсці напрасткі. Гэта, урэшце, прывядзе да таго, што іх дзіця будзе да святых справаў ставіцца інфантыльна і непрадказальна. Бо калі яно са сваёй лялькай можа зрабіць усё, што захоча – выкінуць, замяніць на іншую ці зусім парваць на кавалкі, – то чаму, стаўшы дарослым, у сваіх адносінах да Бога яно не зможа ўчыніць гэтаксама? Такая думка закладваецца ў дзіця з самага дзяцінства...

Аднак здаецца, што ва ўзнятым пытанні гаворыцца больш не пра педагагічныя памылкі бацькоў у справе рэлігійнага выхавання сваіх дзяцей, а пра нестабільную, нясталую, асабіста не перажытую і пазбаўленую элементарнай павагі форму іх уласнай веры. Канешне, гэта можа датычыцца не толькі бацькоў, але і шырэйшага кола хрысціянаў, калі дыскутуюць пра справы, якія наогул не павінны падлягаць дыскусіі...

**Вынікі галасавання на сайце catholicnews.by**




1 – мне падабаецца – 3.4%; 2 – лепш яны, чым некаторыя з іншых сучасных цацак – 8.5%; 3 – катэгарычна супраць – 62.7%; 4 – сумняваюся, не ведаю, што адказаць – 25.4%
**Усяго галасоў: 59**

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**29 чэрвеня 2014 г.** **Мц 16, 13-19**

Каб зразумець, кім ёсць Езус, трэба святло Святога Духа. Вера – гэта не толькі наша дасведчанасць і сіла розуму, але і ласка. Трэба супрацоўнічаць з Божай ласкай і шукаць яе. І кожны Божы дар прымаць з клопатам і руплівасцю, прымаць і дазваляць яму ўзрастаць. Пётр атрымаў асаблівае пакліканне ў Касцёле, каб быць скалой, на якой Езус будуе Касцёл. Касцёл – гэта не звычайная арганізацыя пабожных людзей. Касцёл – гэта цела Хрыста, гэта духоўная будоўля. Хрыстус з'яўляецца галавой Касцёла, Ён ведае план і Ён будуе. Вернікі пакліканы да супрацоўніцтва з Богам.

*– Ці шукаю Божай праўды і Божай мудрасці?*
*– А можа, думаю і жыву паводле таго, што мне здаецца, што сам надумаў?*
*– Можа, думаю, што я мудрэйшы за Бога?*
*– Што я думаю і што гавару пра Божыя загады і пра Божую навуку?*
*– Ці шукаю Божай волі?*
*– А можа, недаацэньваю ролю розуму ў справах веры?*
*– А можа, маю сектанцкія схільнасці і сваю веру будую, абапіраючыся на чалавечую хлусню і маніпуляцыі?*
*– А можа, пераацэньваю ролю пачуццяў у рэлігійным жыцці?*
*– Як я стаўлюся да аўтарытэту Касцёла?*
*– Ці памятаю, што Касцёл пакліканы Езусам, каб правільна пераказваць і тлумачыць Божую навуку?*
*– Ці шчыра шукаю разумення і высвятлення праблемаў, якія з'яўляюцца ў маёй веры?*
*– Ці прымаю Божыя дары, якімі Бог мяне адорвае ў супольнасці Касцёла?*
*– А можа, пагарджаю Божай ласкай?*
*– А можа, я занядбаў супрацоўніцтва з Божай ласкай?*

**6 ліпеня 2014 г.** **Мц 11, 25-30**

Езус – Бог. Толькі Ён аб'яўляе нам праўду пра Бога. Ён – дарога да Айца. На Езуса ўказвае Святы Дух. Навуку Езуса перадае і тлумачыць, натхнёны Святым Духам, Касцёл і кожны хрысціянін. Трэба, каб нашы сэрцы былі адкрыты на тое, што кажа нам Езус, на Яго Асобу. Каб мы спадзяваліся на Яго, а не на нашы сілы і разлікі. Нам патрэбна пакора, каб не хацелі заняць месца Езуса і каб не лічылі сябе Госпадам Богам. Нават у нашых асабістых справах.

*– Ці не раблю намаганняў пабудаваць сваю веру без Езуса або збоку ад Яго?*
*– Ці не шукаю іншай, чым Езус, дарогі да неба?*
*– Ці не звязаўся я з фальшывай духоўнасцю або фальшывым светапоглядам?*
*– Ці разумею, што няма сапраўднага Касцёла і сапраўднага хрысціяніна без сувязі з Езусам?*
*– Ці адкрыта маё сэрца на слова Езуса?*
*– Ці пытаюся ў Бога пра Яго волю?*
*– Ці разважаю над Божым словам?*
*– Ці раблю рахунак сумлення? Ці спавядаюся і як?*
*– Ці паслухмяны я Богу ў справах, з якімі мне асабіста цяжка змірыцца?*
*– А можа, кіруюся сваёй воляй, не зважаючы на Езуса?*
*– Што або хто з'яўляецца надзеяй майго жыцця? Гэта Езус?*
*– Хто пан майго жыцця? Езус?*
*– Якія справы мне найскладаней даверыць Езусу?*

**13 ліпеня 2014 г.** **Мц 13, 1-23**

У адносінах да Езуса людзі былі і бываюць перадузятымі. Таму ЕЗУСУ даводзілася гаварыць да іх прыпавесцямі. Многія мелі свой план і сваё ўяўленне пра Месію. Яно (уяўленне) перашкаджала прыняць Езуса і Яго навуку. Каб словы Езуса прынеслі плён, трэба іх належным чынам прыняць. Неадноўчы здзіўляемся, што наша вера нічога нам "не дае" і што не ўмеем перадаць сваёй веры дзецям. І тут узнікае пытанне: як слухаем Божае слова і ці прыносіць яно плён веры. Слуханне Божага слова без разумення, закрыванне на слова і на Асобу Езуса, духоўная гультайства, павярхоўнасць і аўтаматызм-руціна – гэта памылкі, якія найбольш часта сустракаюцца. Так рабіў той, у каго сэрца было як дарога, паводле прыпавесці Езуса. Памылкай таксама з'яўляюцца непастаяннасць, "голы" энтузіязм, кіраванне выключна эмоцыямі, адсутнасць вернасці і цярпення. Сэрца такога чалавека нагадвае камень. Памылковымі ёсць адносіны да Божага валадарства на адным узроўні з часовымі справамі, як гэта рабіў чалавек, сэрца каторага было поўнае церняў і пустазелля. Гэта праяўляецца ў няўменні адкінуць справы менш каштоўныя на карысць сапраўды каштоўных. А таксама шуканне збаўлення ў справах часовых, а не ў Езусе. Чалавек, які ўважліва слухае слова Божае, – адкрыты, імкнецца яго зразумець, сцярэжэ гэтае слова і сваім жыццём стараецца пацвердзіць яго. Такое слуханне Божага слова прыносіць плён.

*– Як я слухаю Божае слова?*
*– Ці адкрыты я на навуку Езуса?*
*– Ці не імкнуся аб'яўляць сваю волю Езусу і прымушаць Яго будаваць свет па-мойму?*
*– Якія плёны маёй веры?*
*– У чым яны праяўляюцца?*
*– Можа, слухаю Божае слова без разумення і павярхоўна?*
*– Можа, у маёй веры зашмат пачуццяў, а замала вернасці, адказнасці і пастаянства?*
*– Можа, занадта я звязаўся з часовымі справамі і толькі яны мяне клапоцяць?*
*– Што зрабіць, каб я быў больш адкрыты на слова Божае?*
*– Ці імкнуся лепш зразумець Божае слова?*
*– Ці стараюся жыць штодзённа паводле Божага слова?*

**20 ліпеня 2014 г.** **Мц 13, 24-43**

Езус вучыць пра Божае валадарства ў прыпавесцях. Гаворыць пра прынцыпы, паводле якіх у нас узрастае Божае жыццё. Божае жыццё ў нас мае вялікую сілу, пераняняе нас і ўвесь свет. Хоць і пачынаецца ледзь заўважна. І гэта не павінна здзіўляць, бо гэта справа ўсемагутнага Бога. Пакуль жывём на свеце, д'ябал будзе сеяць зло. І многія з нас выбіраюць дарогу зла, а не Божага валадарства. Бог дае развіццё Божай справе, і кожны, хто супрацоўнічае з Божай ласкай, расце. А суд і канчатковы разлік са злом будуць у Судны дзень.

*– Ці веру я ў моц Божага дзеяння?*
*– Ці назіраю за дзеяннем Бога ў сабе і вакол сябе?*
*– Ці дзякую Богу і ці праслаўляю Яго за ўсё, што Ён ува мне робіць?*
*– А можа, расчароўваюся, калі не бачу хуткіх вынікаў?*
*– Можа, давяраю толькі сваім сілам, таму хутка трачу цярпенне, не давяраючы Богу?*
*– Ці не наіўны я?*
*– Ці разумею, што д'ябал шукае магчымасцей, каб перашкодзіць Божай справе?*
*– Ці памятаю пра Божую справядлівасць?*
*– Ці веру, што Езус бачыць дабро, якое я зрабіў?*
*– Ці веру, што Езус бачыць кожны боль, кожнае няшчасце і кожную слязінку?*
*– Ці верна стаю пры Божым Валадарстве, нават калі вакол шмат зла?*

Разважанні падрыхтаваў
**кс. Павел Кнурэк**

## Будслаў 2014
## “Марыя – узор малітвы”
### Праграма

**4 ліпеня, пятніца**

**13.00 — 17.00** — Сустрэча і прывітанне пілігрымаў захавальнікам санктуарыя;
**16.00** — прынясенне крыжа і абраза Сусветнага дня моладзі;
**18.00** — Святая Імша для пілігрымаў;
**20.30** — Акафіст у выкананні хору Грэка-Каталіцкай Царквы;
**20.30** — Ружанец спяваны;
**21.00** — марыйныя Нешпары;
**22.00** — рахунак сумлення;
**22.45** — адарацыя крыжа Сусветнага дня моладзі;
**24.00** — працэсія з копіяй абраза Маці Божай Будслаўскай, святая Імша.

**5 ліпеня, субота**

**02.00** — Моладзевая праграма ў намётавым мястэчку. Зайграе гурт “Laudans”;
**02.00** — святая Літургія паводле грэка-каталіцкага абраду;
**04.00** — адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту;
**05.30** — Гадзінкі аб Беззаганным Зачацці Найсвяцейшай Панны Марыі;
**06.00** — Святая Імша;
**06.30** — Крыжовы шлях;
**07.30** — фацімскі Ружанец;
**09.00** — Святая Імша;
**10.15** — прэзентацыя рэлігійнай літаратуры выдавецтва “Про Хрысто”;
**11.00** — Святая Імша. Выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманту. Эўхарыстычная працэсія з копіяй абраза Маці Божай Будслаўскай. Развітанне з крыжом Сусветнага дня моладзі. Ушанаванне рэліквій св. Яна Паўла II.

**Увага! У Будславе для наведвання будзе даступны намёт “Каталіцкага Весніка”! Шчыра запрашаем на сустрэчу!**

## Будслаўскай Мадонне

Да Цябе, Мадонна, з Збаўцам на руках,
З году ў год трымаюць пілігрымы шлях.
Сцежкі і дарогі праз вякі вялі
Да блаславёнай Будслаўскай зямлі.

Сёння Маці Божую спевамі “Вітай”
Шчыра сустракае наш Лучайскі край!
Прыбыла наведаць, каб кожны кут і дом
І людскія сэрцы напоўніць святлом.

Каб даць сем’ям згоду, надзею і дабро,
Надзяліць спакоем, знішчыць цемры зло.
Кланяемся нізка, да самой зямлі,
Нашую падзяку шчырую прымі.

Будзеш яснай Зоркай з Будслава свяціць
І краіне роднай Заступніцай быць.
Праз жыццё спяшаемся, чакаем сустрэчы,
Мы Твае, Матуля, пілігрымы вечныя.

***Ганна Танана**, Лучайская парафія*

## Росіца запрашае на свята!

**Айцы-марыяне запрашаюць да ўдзелу ў Росіцкіх урачыстасцях.**

1-2 жніўня 2014 г. у в. Росіца Верхнядзвінскага р-на збяруцца вернікі, каб ушанаваць памяць мучаніцкай смерці бласлаўлёных а. Юрыя Кашыры і а. Антонія Ляшчэвіча. Пачатак урачыстасцяў – 1 жніўня а 18.00.

З гэтай нагоды адбудуцца наступныя пілігрымкі:
**Барысаў – Росіца:** 25.07 – 01.08
адказны – а. Вадзім Мізер MIC
(+ 375 33 355 96 60)
**Друя – Росіца:** 30.07 – 01.08
адказны – а. Канстанцін Анашка MIC
(+ 375 29 984 86 68)
**Полацк – Росіца:** 29.07 - 01.08
адказны – а. Аляксандр Жарнасек MIC
(+ 375 29 713 02 33)
**Велапілігрымка Жодзіна – Росіца:** 28.07 – 01.08
адказны – а. Міхаіл Цвячкоўскі MIC
(+ 375 29 136 52 89)

## Тракелі 2014
## “А пад крыжам Маці стаяла”
### Праграма

**11 ліпеня, пятніца**

**21.00** – Прывітанне крыжа і абраза Сусветных дзён моладзі;
**21.15** – канферэнцыя;
**22.00** – адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту;
**23.00** – Крыжовы шлях вуліцамі Тракеляў.

**12 ліпеня, субота**

**00.00** – Св. Імша-пастэрка;
**02.00** – Ружанцовая малітва – Балесная частка;
**03.00** – Вяночак да Божай міласэрнасці;
**04.00** – канцэрт;
**05.00** – Гадзінкі аб Беззаганным Зачацці НПМ;
**06.00** – спеў традыцыйных песень;
**07.00** – падрыхтоўка да Св. Імшы;
**07.30** – Св. Імша пад кіраўніцтвам ксяндзоў-новапрэзбітараў і юбіляраў;
**08.30** – размова моладзі з біскупамі;
**09.30** – падрыхтоўка да Св. Імшы;
**10.00** – адпустовая Св. Імша, развітанне з крыжам і абразом Сусветных дзён моладзі.

**Дарагія сябры!
У Тракелях падчас урачыстага святкавання будзе адкрыты намёт “Каталіцкага Весніка”.
Шчыра запрашаем на сустрэчу!**

### Шчыра віншуем !

*Шчыра віншуем нашага паважанага святара Анджэя Возьняка – пробашча Пастаўскай парафіі – з Днём нараджэння! Жадаем Божай ласкі і апекі Маці Божай, шчодрых дароў Духа Святога, добрага здароўя, натхнення і поспехаў у працы.*

*Мы, вернікі парафіі, вельмі ўдзячны нашаму пробашчу за яго адданасць і шчырасць у малітве за нас да Пана Бога, паважаем за яго здольнасці ў згуртаванні парафіянаў вакол нашага касцёла і з’яднанні нас як адзінай Божай сям’і.*

***Парафіяне касцёла св. Антонія Падуанскага і Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі***

## Браслаў запрашае моладзь!

**З 7 па 9 жніўня ў Браславе адбудзецца чарговая сустрэча моладзі Віцебскай дыяцэзіі. Мерапрыемствы будуць праходзіць у дзвюх групах.**

**Першая група** – вучні 9-11 класаў, з якой будзе займацца а. Міхаіл Цвячкоўскі MIC. У гэтай групе сярод іншага будуць узнятыя пытанні досведу любові Бога, прабачэння, граху, жыцця ў Духу Святым і т.д.

**Другая група** – гэта моладзь, якая ўжо скончыла школу, і ёй будзе апекавацца а. Аляксандр Жарнасек MIC. Тут плануецца разгледзець пытанні розных формаў малітвы: ранішняя малітва, рахунак сумлення, малітва Божым Словам, малітва праслаўлення. Таксама будзе магчымасць скарыстацца заступніцкай малітвай у інтэнцыі духоўнага і фізічнага аздараўлення.

Апрача таго, у праграме плануецца канцэрт хрысціянскага гурта “РЫБЫ”. Як заўсёды, будзе Святая Імша, споведзь і магчымасць паразмаўляць са святаром.

**Рэгістрацыя ўдзельнікаў пачынаецца
7 жніўня (чацвер) а 12.00.**

**Запіс па тэлефоне:**
с. Наталля: +375 33 677 50 81
а. Аляксандр: + 375 29 713 02 33
а. Тадэвуш: + 375 29 592 65 69

### Віншуем!

*Шчыра віншуем любімага сына а. Андрэя Жылевіча з 10-годдзем святарства (22 мая) і з Днём нараджэння (19 чэрвеня)!*

*Ад усяго сэрца жадаем табе шчодрых Божых ласкаў, моцы і цярплівасці ў выкананні ўсіх душпастырскіх абавязкаў. Няхай добры Бог, якому ты давяраешся, дапаможа пераадолець усе цяжкасці, а дарога, якой ты штодзённа крочыш, будзе шчаслівай і бласлаўлёнай. Няхай здароўе будзе моцным, а радасць – штодзённай. Няхай усё задуманае здзяйсняецца, а нягоды абыходзяць бокам.*

*Жадаем, каб у тваім сэрцы заўсёды жылі надзея, вера і любоў! Жадаем дароў Святога Духа, бласлаўлення Найсвяцейшага Святара і няспыннай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Няхай добры і міласэрны Бог штодзённа цябе бласлаўляе, каб і далей з даверам крочыць па дарозе Хрыстовага святарства. Шчыра молімся за цябе і віншуем!*

***Тата, мама і брат з сям’ёй***

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі
**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне «Віцебская дыяцэзія Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ»
**Выдавец:** рэлігійная місія «Дабрачыннае каталіцкае таварыства «Карытас» Віцебскай дэяцэзіі Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ
**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога
Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Каталіцкі Веснік», перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня», г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 4693
Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 4500 экз.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 25.06.2014 г. у 23.48
**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211800, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(02156)2-32-60
e-mail: mail@catholicnews.by
http://catholicnews.by
ISSN 2224-9621
9772224962006
Наш падпісны індэкс 63783
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі РБ